*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 28 (516) 11 ЛІПЕНЯ 2001 г.**

## III з'езд беларусаў свету



5-6 ліпеня напярэдадні Купалля ў менскім Доме літаратара прайшоў III з'езд беларусаў свету. Папярэднія праходзілі ў 1993 і 1997 гадах. На з'езд сабраліся дэлегаты ад прыкладна 70 суполак беларусаў з 20 краінаў свету і з уласна Беларусі. Сярод прысутных на з'ездзе былі такія вядомыя беларусы замежжа, як **Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік**, старшыня Саюза пісьменнікаў **Вольга Іпатава**, старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў**, з палітыкаў – **Сямён Домаш**. Вітанні з'езду даслалі **Барыс Кіт і Ганна Сурмач**, старшыня Рады Згуртавання. Яна не прыехала на з'езд, бо жыве ў чэшскай Празе са статусам палітычнага ўцекача. З гэтай прычыны 5-6 ліпеня ў Беларусь на з'езд беларусаў свету не паехалі некалькі дзесяткаў чалавек, якія мусілі б на ім быць.

З асаблівай цеплынёй прымаў з'езд выступ Алега Трусава, які агучыў тэкст Дэкларацыі аб беларускай мове і запрапанаваў менавіта З'езду беларусаў свету першаму падтрымаць яе. Бурнымі апладысментамі Дэкларацыя аб беларускай мове была падтрымана.

На З'ездзе абрана новае кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Прэзідэнтам МГА ЗБС "Бацькаўшчына" абраны прафесар Анатоль Грыцкевіч, сябар Рэспубліканскай рады ТБМ, старшынёй Рады абрана Алена Макоўская.

## ПАСТАНОВА

**Рэспубліканскай Рады ГА ТБМ імя Ф. Скарыны Аб парадку падпісання "Дэкларацыі аб беларускай мове"**

У сувязі з прыняццем VII з'ездам ТБМ "Дэкларацыі аб беларускай мове" Рэспубліканская Рада ГА ТБМ імя Францішка Скарыны пастанаўляе:

1. Даручыць Сакратарыяту ТБМ распрацаваць афіцыйны мастацкі бланк Дэкларацыі.
2. Даручыць Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ надрукаваць неабходную колькасць бланкаў Дэкларацыі.
3. Даручыць Сакратарыяту ТБМ распрацававаць суправаджальны ліст, у якім патлумачыць умовы падпісання Дэкларацыі.
4. Разаслаць тэксты Дэкларацыі для падпісання:
   - усім дзяржаўным структурам: Прэзідэнту, парламенту, ураду, міністэрствам, ведамствам, у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы, на прадпрыемствы, у абласныя і раённыя выканкамы і г. д.;
   - усім палітычным партыям;
   - усім грамадскім арганізацыям;
   - выбітным асобам беларускага грамадства;
   - замежным беларускім арганізацыям;
   - замежным палітычным і грамадскім дзеячам, якія падтрымліваюць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння
   - іншым арганізацыя і асобам.
5. Арганізаваць масавыя акцыі для падпісання Дэкларацыі грамадзянамі Беларусі.
6. Рэгулярна друкаваць спісы тых, хто падпісаў Дэкларацыю.

## З беларускай мовай у XXI стагоддзе

**Зварот Рэспубліканскай Рады ТБМ да ўдзельнікаў у прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі**

Дарагія сябры! У нашай краіне набірае моц кампанія па выбарах новага Прэзідэнта Беларусі.

Прааналізаваўшы яе пачатак, мы бачым, што дзяржаўныя структуры (і ў першую чаргу Цэнтральная Выбарчая Камісія), а таксама некаторыя прэтэндэнты на высокую дзяржаўную пасаду, нягледзячы на вынікі апошняга перапісу насельніцтва і дзейнае заканадаўства, свядома і несвядома ігнаруюць беларускую мову – дзяржаўную мову тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь.

Шаноўныя выбаршчыкі!

Смела патрабуйце ад усіх удзельнікаў выбарчай кампаніі ў адпаведнасці з артыкулам 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прад'яўляць вам дакументы выбарчай кампаніі, у тым ліку падпісныя лісты для рэгістрацыі кандыдатаў у Прэзідэнты, на беларускай мове, а таксама запаўненне іх па-беларуску.

Паважаныя прэтэндэнты на прэзідэнцкую пасаду! Шырока выкарыстоўвайце беларускую мову ў сваёй выбарчай агітацыі, асабліва пры вырабе друкаванай прадукцыі. Уключайце ў свае перадвыбарчыя платформы патрабаванні аб наданні беларускай мове рэальнага статусу афіцыйнай дзяржаўнай мовы, аб вяртанні нацыянальнай сімволікі, аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Памятайце, што 86% грамадзян Беларусі лічаць беларускую мову роднай, а 37% штодня на ёй размаўляюць.

Без адраджэння беларускай мовы, гісторыі і культуры рэальны суверэнітэт Беларусі як незалежнай еўрапейскай краіны немагчымы.

**Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны**
**Менск, 1 ліпеня 2001 г.**

## *Інтэрвію для "Нашага слова"*

Рэспубліканская рада ТБМ на апошнім паседжанні ўхваліла тэкст інтэрвію газеты "Наша слова" з усімі прэтэндэнтамі ў кандыдаты на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

***Паважаны ________________***

***Вы зарэгістравалі сваю ініцыятыўную групу па зборы подпісаў для вылучэння ў кандыдаты на пасаду Прэзідэнта Беларусі.***

***У сувязі з гэтым прапануем Вам адказаць на наступныя пытанні, якія хвалююць сяброў і прыхільнікаў ТБМ.***

***1. У якой ступені Вы валодаеце дзяржаўнай беларускай мовай, як часта размаўляеце на ёй у сям'і, афіцыйных абставінах, ці ўжываеце вы яе у афіцыйнай і неафіцыйнай перапісцы і іншых камунікацыйных зносінах?***

***2. Ці лічыце Вы неабходным усталяванне рэальнага статусу беларускай мовы як афіцыйнай дзяржаўнай і якія маеце прапановы па рэалізацыі гэтага?***

***3. Ці лічыце Вы неабходным наданне дзяржаўнага статусу спрадвечным нацыянальным сімвалам – гербу "Пагоня" і бел-чырвона-беламу сцягу і якія маеце прапановы па рэалізацыі гэтага?***

***4. Ці лічыце Вы неабходным стварэнне ў Беларусі сістэмы вышэйшай адукацыі на беларускай мове і адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта (улічваючы сабраныя ТБМ больш за 50 тысяч подпісаў за БНУ) і якія будуць прапановы па вырашэнні гэтага?***

Рада даручыла Сакратарыяту разаслаць пытанні ўсім прэтэндэнтам. Усе адказы будуць надрукаваныя ў "НС".

Сакратарыят і Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім старшыні Бялыніцкай арганізацыі ТБМ **Некрашэвіча Сяргея Пятровіча**, жыццё якога раптоўна абарвалася ў трагічным здарэнні 6 ліпеня 2001 года.

Добрая памяць аб табе назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах, дарагі наш дружа.

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў



Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов

220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 11
Дом Урада
тэл/факс 227-19-03
E-mail: centrizb@ pmrb.gov.by

220010, г. Минск, ул. Советская, 11
Дом Правительства
тел/факс 227-19-03
E-mail: centrizb@ pmrb.gov.by

288/01-7 ад 27.06.2001 г.

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А.**

**Паважаны спадар Трусаў!**

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусьпа выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў падзяляе Ваш клопат аб усебаковым функцыянаванні беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Вымушаны нагадаць, што руская мова адпаведна Закону Рэспублікі Беларусь "Аб мовах Рэспублікі Беларусь" таксама мае на гэта права.

Згодна з артыкулам 12 вышэйзгаданага Закона дапускаецца афармленне выбарчай дакументацыі на любой з дзяржаўных моў.

Акрамя спадара Папкова, ніхто з кіраўнікоў ініцыятыўных груп не выказаў скаргі на тое, што атрымаў падпісныя лісты і пасведчанні членаў ініцыятыўных груп на рускай мове. Тэрмінова выдаўшы пасведчанні членам ініцыятыўнай групы пад кіраўніцтвам Папкова С.П. на беларускай мове, Цэнтральная камісія прапанавала здаць ужо атрыманыя падпісныя лісты на рускай мове, каб замяніць на тэрмінова зробленыя падпісныя лісты на беларускай мове. На жаль, такую магчымасць сп. Папкоў не скарыстаў.

Паведамляем таксама, што Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў зацверджаны на беларускай мове формы пратаколаў камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб выніках праверкі дакладнасці подпісаў выбаршчыкаў у падпісных лістах для збору подпісаў па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, пратаколаў камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб выніках галасавання па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і шэрагу іншых дакументаў. На дзвюх дзяржаўных мовах зроблены плакаты з датай выбараў.

Лічым неабходным нагадаць, што выбарчая дакументацыя можа запаўняцца на любой дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь незалежна ад таго, на якой мове зацверджана форма дакументу.

**Старшыня камісіі Л. Ярмошына.**

## Не "пушчаць" беларусаў у камісіі!

У пракуратуру Магілёўскай вобласці паступіла заява аб парушэнні Канстытуцыі і Закону Рэспублікі Беларусь Магілёўскім гарвыканкамам і Прэзідыюмам Магілёўскага гарадскога савета дэпутатаў пры стварэнні раённых у горадзе Магілёве выбарчых камісій. Адметнасць гэтай заявы ад іншых у тым, што сярод парушаных законаў называецца і закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

Справа ў тым, што сярод 59 пададзеных заяваў грамадзян 3 былі аформлены на беларускай мове. 39 прадстаўнікоў утварылі тры раённыя камісіі (па 13 чалавек). Прыблізна трэцяя частка заяваў такім была адхілена. Адпаведна прынцыпу роўнасці дзвюх моваў, закладзенаму ў нашым заканадаўстве, натуральна было чакаць, што будзе адхілена трэцяя частка рускамоўных заяў і трэцяя частка беларускамоўных заяў. Таму ў камісіі павінны былі ўвайсці 37 рускамоўных і 2 беларускамоўных прадстаўнікі. Тым не менш, магілёўскія ўлады груба парушылі гэтую логіку, уключыўшы ў камісіі толькі рускамоўных прадстаўнікоў і адхіліўшы ўсе беларускамоўныя заявы.

У апошнія гады Масква вельмі актыўна турбуецца аб рускамоўных жыхарах іншых краін. Хто ж патурбуецца пра беларусаў у Беларусі, якіх рускамоўная прамаскоўская чэлядзь не пускае не толькі да ўлады, але нават у выбарчыя камісіі?

*М. Булавацкі*



# ТБМ Віленскага Краю інфармуе

Амбасада РБ у Літве, а таксама Консульства замест таго, каб дапамагаць беларусам Літвы у справе асветы, культуры і гісторыі робяць усялякія перашкоды справе Беларушчыны.

Нягледзячы на тое, што У. ГАРКУН сказаў, што для культуры Беларусі і Літвы не існуе межаў, на самой справе гэта не зусім так.

Так, пасол Гаркун і консул Аляксандраў адмовілі ў выдачы уязной візы ў РБ, каб прывезці кніжкі на роднай мове для беларускага аддзела Савічунскай бібліятэкі Віленскага раёна...

Летась таксама звярталася стараста Зуюнскай сянюніі Віленскага раёна па просьбе ТБМ каб сп. Гаркун выдаў візу для паездкі ў Беларусь, каб прыняць удзел у мерапрыемствах па падрыхтоўцы свята "ДЗЯДЫ", але была адмова. Патрэбна было плаціць вялікія грошы, каб з'ездзіць і прывесці у парадак капліцу і прыдарожныя крыжы... Трэба дадаць, што работнікі пасольства і консульства любяць у гэтай жа сянюніі, дзе старастай з'яўляецца Апулевіч Ч., наведаць Музей віленскіх вербаў, як гэта рабіла жонка Гаркуна разам з жонкамі іншых амбасадараў, таксама паявіцца на тэрыторыю сянюніі, палюбавацца на аўстралійскіх страўсаў ды пакатацца на конях... Але вось калі гэтая Апулевіч Ч. звярнулася з просьбай аб выдачы візы, то адмова...

Цяпер нядаўна Секцыя хрысціян-католікаў пры ТБМ звярнулася з просьбай выдаць уязныя візы для пяці чалавек, каб зрабіць паломніцтва ў БУДСЛАЎ (2 ліпеня там вялікі фэст) да Маці Божай Будслаўскай, але гэтага не адбылося. Паломніцтва было сарвана па віне работнікаў Консульства, якія бяздушна аднесліся да гэтай справы, патрабуючы грошы нават за хуткасць выдачы візаў.

Праўда, пасля таго, як са скаргай звярнуліся зноў да Гаркуна, то Консульства трошкі "памякчэла" і прапанавала візы выдаць (групаву па 5 даляраў за кожнага чалавека). Трэба дадаць, што гэтыя работнікі Пасольства і Консульства ніколі не былі ў беларускім каталіцкім касцёле святога Барталамея у Вільні, на Зарэччы, дзе набажэнствы ксёндз Ян Шуткевіч вядзе на роднай мове, дык што ім тады і да паломніцтва людзей да Маці Божай Будслаўскай.

Гэтага ніколі не было раней. Так, ВАЙТОВІЧ (былы пасол) і БОБАЎ (былы консул) заўсёды ішлі насустрач беларускай дыяспары ў Літве, каб на ільготных умовах выдаць візы ці аказаць дапамогу сваім суайчыннікам, ведаючы ў якім цяжкім становішчы знаходзяцца іх суайчыннікі.

... Праўда, ёсць сярод манкрутаў і добрыя людзі, якія імкнуцца неяк дапамагчы тутэйшым беларусам. Гэта дарадчык па культуры амбасады сп. СКАРАХОДАЎ, які для бібліятэкі беларусаў, якая будзе ў далейшым насіць імя Ф. Багушэвіча прывёз з Беларусі каля 100 кніжак і выкупіў у майстра бюст Багушэвіча. Але такіх людзей адзінкі. Трэба спадзявацца на перамены ў Беларусі, тады і нам будзе лягчэй устанавіць стасункі ў справе адраджэньня Беларушчыны.

З кожным годам людзям цяжэй і цяжэй робіцца, каб паехаць у Беларусь. Так, калі раней за пасведчанне на два гады, каб паехаць у Беларусь трэба было плаціць 56 літаў, то цяпер ужо гадавая віза (пасведчанне) каштуе 200 літаў (50 даляраў). А з 2003 года будзе уведзены візавы рэжым і для пенсіянераў. Пенсіянерам давядзецца плаціць за візы, альбо сядзець дома, затое на Кубу ўведзены бязвізавы рэжым, куды не ездзяць простыя людзі, ды і чаго туды ездзіць.

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю пра ўсё гэта інфармуе дзеля таго, каб і пенсіянеры ведалі, за каго і за што яны будуць галасаваць пад час прэзідэнцкіх выбараў.

... Пасол РБ у Літве сп. У. ГАРКУН праз газету "ОБЗОР" (рускамоўную) павіншаваў сваіх суайчыннікаў у Літве з Днём Рэспублікі – 3 ліпеня. Няма за што дзякаваць, бо пустых слоў нам не патрэбна, хопіць маніць людзей. Грошы, якія ідуць на правядзенне параду ў Менску, лепш бы былі накіраваны на паляпшэнне жыцця беларускага народа, пайшлі б на адукацыю і культуру.

Народ чакае пераменаў і гэтыя перамены ў руках людзей. Але ў які раз яны будуць ашуканы.

***Юры Гіль,***
***Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю.***

# Іх лёс звязаны з Вільняй

*"Калі сябры нам гудзяць згубаю*
*І ворагі прарочаць скон,*
*Тады к табе, о Вільня, любая,*
*Прыводзяць згадкі ў палон"*
***Ул. Жылка.***



*"Жыццё кожнага чалавека – гэта адно імгненне ў развіцці таго ці іншага народа, а тым больш у развіцці ўсяго чалавецтва. Але ўся гісторыя апошніх складаецца з дзеянняў асобных людзей, якія жылі, тварылі, а пасля адышлі ў іншы свет. І кожны з іх, як асоба, аказаў свой пэўны, няхай сабе і не вельмі значны, уплыў на развіццё таго ці іншага гістарычнага працэсу".* Так пачынае сваю чарговую кнігу С. Шарэцкі **"Іх лёс звязаны з Вільняй"**, пра людзей розных прафесій, у кожнага сваё жыццё, але ўсе яны ганарацца сваёй прыналежнасцю да беларускага народа. Розныя сцежкі прывялі іх у Вільню, напрыклад, Хведар Нюнька прыехаў у час Другой сусветнай вайны. Аўтар шмат піша пра жыццё і дзейнасць гэтага чалавека – змагара за беларускасць. Ніна Брылеўская прыехала ў год вызвалення горада ад фашыстаў. Жыццё для другіх – вельмі дакладна сказана. Сумлення, нябачна, аддаючы ўсю сябе і час робіць сваю справу ў ТБК. Яна жыве для другіх і ад гэтага атрымоўвае задавальненне. Кожны, хто хоць раз бываў у ТБК на вуліцы Жыгіманту 12/3, той запомніў сціплую, заклапочаную Ніну Рыгораўну. Яна абавязкова кожнаму прапануе кубак гарбаты, альбо філіжанку кавы, прапануе пазнаёміцца з новым газетамі і часопісамі, раскажа аб дзейнасці Таварыства. Яна любіць людзей, людзі – яе. Гэта галоўная рыса характару.

Вельмі шмат увагі ўдзяляе аўтар спадарству Леакадзіі і Кастусю Шышэям, "Чайка і Арол". На іх прыкладзе жыцця паказаны лёс беларускага народа, якому давялося ва ўмовах двух самых крывавых іншаземных рэжымаў XX стагоддзя змагацца за адраджэнне сваёй нацыянальнай дзяржавы і культуры.

Яны прыехалі ў Вільню ў пачатку 60-х гадоў, адбыўшы гады пакутаў і выпрабаванняў у лагерах Інты.

Пра Кастуся Шышэю пісаў Сяргей Ёрш. Кніга С. Шарэцкага тым і каштоўная, што ў ёй дастаткова падрабязна апісана жыццё гэтага чалавека – патрыёта, героя, змагара, мужнага і непахіснага. Жаўнер беларускага войска, якое 25 сакавіка 1944 года прысягала "верна служыць свайму Беларускаму народу", аб нацыянальным характары войска сведчылі і атрыбуты: на шапках беларускі герб "Пагоня", на каўнярах мундзіраў – белчырвона-белыя палоскі, спявалі беларускія песні, маршыравалі па Навагрудку, - з гонарам гаворыць К. Шышэя. Гэта быў шчаслівы перыяд жыцця – маладосць, упэўненасць, вера ў шчаслівую будучыню. Гэтага чалавека, цудоўнага суразмоўцу, можна слухаць гадзінамі. Лёсам наканавана яму было правесці доўгія гады ў капальнях Інты. Здзіўляюся мужнасці К. Шышэі. На допытах ён адмовіўся падпісваць паперы, лепш няхай заб'юць, чым падпісваць на сябе паклёп, бо пройдуць гады і нехта некалі прачытае ўсе гэтыя паперы. І калі я падпішу, дык хто я тады? На допытах не зламаўся ад катаванняў і здзекаў. На пытанне, чаму ён так ненавідзіць савецкую ўладу, малады чалавек адказваў: "Я ж не дубіна. Ужо нешта ў жыцці бачыў, ды і шмат чаго чытаў, у тым ліку і кнігу генерала Краснова. А цяпер, калі сутыкнуўся з маёрам, які вёў следства, ды так здзекваўся над людзьмі, што нямецкія гестапаўцы былі больш гуманнымі. Тыя выводзілі і стралялі чалавека, "а савецкія маёры адчувалі асалоду ад людскіх пакутаў, без чалавечага сумлення. Дык за што яе любіць, калі ў яе гэткія прадстаўнікі".

Ды і ў лагеры, калі начальнік спытаў, хто яго бацькі. Хлопец адказаў, што яны загінулі ў час вайны, і ён застаўся адзін. А цяпер Абасавы і іншыя пачвары здзекуюцца. Але ж я не гэткі чалавек, што паддамся, каб на мне ехалі, К. Шышэя бачыў польскую дыфензыву, нямецкае гестапа і савецкае ЧК. Таму ён мог параўнаваць. Гэткай пакуты людзям ніхто не прычыняў, як на допытах савецкія чэкісты. Давялося К. Шышэю сядзець у адной камеры з ксяндзом Віктарам Шутовічам, які гаварыў, што мы церпім не толькі за свае грахі, але і за грахі сваіх продкаў. Таму трэба цярпець. І Кастусь мужна цярпеў. Вось, ён прыклад змагара, сучасным "патрыётам", якія адзін раз пападаюць у міліцэйскі пастарунак і збягаюць за мяжу прасіць палітычнага прытулку, або пішуць "мемуары". Кастусь Шышэя вельмі сціплы, заўсёды падкрэслівае, што ён не герой. Яго жыццё подзвіг. У лагеры ён сустрэўся з беларускім дзеячам стрыечным братам В. Шутовіча, Янкам Шутовічам, потым яны будуць доўгія гады сябраваць сем'ямі. Жонка Я. Шутовіча літоўская паэтка Она Міцюта. У Інце Кастусь пазнаёміўся з паэткай Ларысай Геніюш, ён перапісваў яе вершы, як нешта самае дарагое, што дапамагала адчуваць сябе чалавекам у нечалавечых умовах савецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Вершы Косця хаваў у засмаленай бутэльцы пад чорнай столлю. Яны падтрымлівалі агеньчык жыцця і жаданне выжыць. Ларысу Геніюш Косця заўжды прыводзіць у прыклад, іншым, як мужнага чалавека і сапраўдную патрыётку. Знаёмства з паэткай перарасло ў цеснае сяброўства, якое доўжылася да апошніх дзён яе жыцця. Сустракаўся К. Шышэя і з З. Верас, сябраваў з Лявонам Луцкевічам і Л. Каралём. Ён пражыў і перажыў розныя перыяды ў жыцці. Яно было багатае на знаёмствы, сустрэчы з цікавымі людзьмі.

Яму ёсць аб чым расказаць, яго кожнае слова ловіш. Дзякуючы настойлівасці С.Шарэцкага, К. Шышэя да канца раскрыўся. У кнізе згадваюцца і Б. Рагуля і М. Рулінскі і маладыя людзі, лёс якіх звязаны з Вільняй – Л. Мілаш і М. Іголка і іншыя. Кніга цікавая, чытаецца, яе хочаца чытаць, нягледзячы на тое, што я шмат чула пра тое, што напісана, многіх асобаў па працягу дзесятку гадоў добра ведаю, таму яна для мяне яшчэ больш каштоўная. Жыццё і дзейнасць К. Шышэі, Хв. Нюнькі, Н. Брылеўскай – прыклад для маладога пакалення, частка гісторыі Беларусі. Кніга пра дзеячоў, якія жывуць, любяць свой горад, народ, радуюцца яе з'яўленню. Пра іх помняць, будуць ведаць і другія, і іх нашчадкі. Кніга "Іх лёс звязаны з Вільняй" – беларуская гісторыя Вільні напрыканцы XX стагоддзя. У чэрвені ў Таварыстве Беларускай Культуры адбылася прэзентацыя. Аформіў вядомы мастак Алег Аблаждэй.

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня, чэрвень 2001 г.***

## Ушанаванне Ф. Багушэвіча

Сёлета Ф. Багушэвічу споўнілася 161 угодкі з Дня нараджэння і 101 угодкі з дня смерці.

17 чэрвеня г.г. у беларускім каталіцкім касцёле св. Бартамея ў Вільні адбылася святая імша за супакой душы Ф. Багушэвіча, якую праводзіла суполка ТБМ. Набажэнства правёў на роднай мове а. Ян Шуткевіч.

Афяраванне (35 літаў) за імшу было зроблена за ганарар артыкула Гіля Ю. "Фр. Багушэвіч – класік беларускай літаратуры", надрукаваны ў польскай газеце "Nasza gazeta" (дадатак "Час").

Гэтае мерапрыемства дало магчымасць засяродзіць увагу на хутчэйшае адкрыццё Мэмарыяльнай Дошкі на радзіме паэта – Віленшчыне.

***Ю. Гіль.***
***31.06.2001 г.***

## ПЛАН

**правядзення мерапрыемства па ўшанаванні памяці ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА з нагоды 161 угодкаў нараджэння і 101-х угодкаў смерці паэта**

ТЭМА: АДКРЫЦЦЕ МЭМАРЫЯЛЬНАЙ ТАБЛІЦЫ (ДОШКІ) Ф. БАГУШЭВІЧУ

Месца правядзення мерапрыемства: В.САВІЧУНЫ Рукайняйскай сянюніі Віленскага раёна Літ.Рэспублікі (Савічунская бібліятэка)

Дата правядзення: 23 ліпеня 2001 г. (субота). Пачатак – 12 гадзін дня

Афармленне:
1) На сцяне бібліятэкі мемарыяльная табліца.
2) Вялікі партрэт Ф. Багушэвіча.
3) Стэнды пра жыццё і творчасць паэта.
4) Стол, свечкі, крыж.
5) Выставы народных умельцаў.

Інфармацыйнае забяспячэнне: тэлебачанне (беларуская праграма), карэспандэнты радыё і газет.

Мастацкія калектывы: "Рудамянка", "Сябрына", "Гервяты" ...

**ПАРАДАК ПРАВЯДЗЕНЬНЯ МЕРАПРЫЕМСТВА:**

1.Асвянчэнне мемарыяльнай таблiцы. Святая імша за ўпакой душы Францішка Багушэвіча праводзіць ксёндз Рукойнскага касцёла.

2. Мітынг-рэквіем (па асобнай праграме)

3. Выступы мастацкіх калектываў. Народныя гулянні.

4. Падвядзенне вынікаў мерапрыемства (стараста сянюніі).

**ЗАЎВАГА:** Абвесткі пра гэтае мерапрыемства робяцца праз тэлебачанне радыё, газеты, аб'явы і асабістае запрашэнне...

Запрашаюцца: прадстаўнікі ад дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Літвы і Беларусі.

**РАДА ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю**
**Ю. Гіль**

28 чэрвеня 2001 г. Вільня.

# ЗНАЧЫЦЬ, ЗА ПРЫКЛАД ВОЗЬМЕМ ВАЛІЙЦАЎ?

## Рэпліка "этнічнага прастафілі" С. Запрудскаму

*Гэту рэпліку я напісаў даўно, больш трох месяцаў таму, але ўстрымваўся ад апублікавання, спадзеючыся, што сітуацыя праясніцца на VII з'ездзе ТБМ і неабходнасць у гэтым адпадзе. Праяснілася ж так, што патрэба выказацца стала яшчэ больш пільнай. І таму падрыхтаваны да друку яшчэ ў сакавіку тэкст прапаную "Нашаму слову" (з нявялікімі папраўкамі).*

У "Нашым слове" за 21 лютага г. г. актывіст ТБМ, мовазнаўца С. Запрудскі выступіў з дыскусійным артыкулам наконт Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI ст. Артыкул ён назваў "Да суадносінаў рацыянальнага і эмацыянальнага ў дзейнасці ТБМ". Аўтар лічыць, што ў дзейнасці Таварыства зашмат эмацыянальнага і мала рацыянальнага, і што грашаць гэтым перш за ўсё "рамантыкі-ўтапісты" Н. Гілевіч, Л. Лыч і іншыя. Асабліва дасталося ад яго першаму. С. Запрудскі паставіў сабе задачу развянчаць мой прынцыповы тэзіс: ***"Трэба, каб у Беларусі запанавала беларуская мова"***. Рацыяналіст-прагматык піша: *"З пункту гледжання патрыятычнай рыторыкі выказванні падобнага тыпу можна ацэньваць станоўча, аднак гэта ж нельга сказаць, калі мы будзем падыходзіць да такіх праклямацый з пункту гледжання прагматызму"*. Вось зыходны тэзіс крытыка-рацыяналіста С. Запрудскага. Гэтай мэце падпарадкаваны ўсе яго разважанні, аргументы, высновы. Прапануецца зразумець і запомніць: лозунг ***"У Беларусі павінны запанаваць беларуская мова"*** – рыторыка і не больш. Ён не рэальны. Ніякай практычнай праграмы ў ім няма. А таму – па баку яму і на сметнік.

Ну, добра. Калі гэтакі лозунг непатрэбны, давайце заменім яго іншым, супрацьлеглым па зместу і сэнсу: ***"Не трэба, не трэба, каб у Беларусі запанавала беларуская мова! Не трэба!"*** І сапраўды: а навошта? Чым кепская сітуацыя, калі замест беларускай мовы на нашай роднай зямлі пануе руская (а яна пануе)? Уяўляеце, шаноўны чытач, як запляскаюць у далоні, убачыўшы такі лозунг пад сцягам ТБМ, ворагі беларушчыны на чале з галоўным? І хачу зусім сур'ёзна запытацца – і ў С. Запрудскага і ў тых, хто падзяляе яго высновы: дык а навошта, дзеля чаго тады наогул "гарадзіць плот"? Навошта Стратэгія развіцця беларускай мовы, калі яе канчатковай мэтай не будзе "запанаванне" нашай роднай мовы на нашай роднай зямлі? Дзеля чаго тады яе распрацоўваць – гэтую Стратэгію? Каб захаваць статус кво? Каб і надалей у нас панавала расійская мова? Навошта Стратэгія развіцця, калі не будзе чаго развіваць?

Лозунг, на які накінуўся С. Запрудскі, - не рыторыка, ён мае зусім канкрэтную практычную мэту: зрабіць беларускую мову ў Беларусі адзінай дзяржаўнай, якою, зусім нядоўга, на працягу некалькіх гадоў, яна была (1990 – 1995). Гэта і толькі гэта – адзіная гарантыя выратавання нашай мовы і нашага народа ад канчатковай русіфікацыі і асіміляцыі. Няўжо С. Запрудскі гэтага не разумее? І калі ўжо гаварыць пра рацыяналізм-прагматызм, дык дазвольце вам, шаноўны прагматыкі, нагадаць наступнае. Дай Бог вам для абароны і выратавання беларускай мовы зрабіць у практычным плане тое, што зрабілі непрагматыкі і нерацыяналісты Н. Гілевіч і яго паплечнікі-адзінаверцы. Пачнём з таго, што яны заснавалі ТБМ, пра ролю якога не мне тут гаварыць. Галоўнае ж, менавіта яны практычна дабіліся, каб у студзені 1990 года быў прыняты (яшчэ Вярхоўным Саветам XI склікання) "Закон аб мовах у БССР", паводле якога беларуская мова стала ў Беларусі адзінай дзяржаўнай. Упершыню ў гісторыі краіны за апошнія чатырыста гадоў! Менавіта яны (Н. Гілевіч і дэмакратычная апазіцыя) пры прыняцці Вярхоўным Саветам XII склікання Канстытуцыі 1994 года адстаялі артыкул, паводле якога беларуская мова ў Беларусі з'яўляецца адзінай дзяржаўнай мовай, а руская атрымлівае адпаведныя, вельмі вялікія, але не дзяржаўныя правы. Гэта была патрыятычная рыторыка, Запрудскі? Гэта была вялікая рэальная перамога ў інтарэсах нашай мовы. Перамога ў поўным сэнсе слова гістарычная. І калі б не адзін дзяржаўны "падварот" (1995) і затым канчатковы дзяржаўны пераварот (1996) – уже сёння ў грамадскім ужытку ў Беларусі панавала б беларуская мова (зусім не на шкоду рускай, пашырэнню англійскай, і іншым). Вынікі той гістарычнай перамогі мы бачым сёння – гэта новыя пакаленні моладзі, якія ў зусім зялёным узросце паспелі ў 1990-1995 гг. зразумець, хто яны на гэтай зямлі і якая іх родная мова.

У падтрымку сваёй пазіцыі С. Запрудскі ўзяў сацыялінгвістычнае даследаванне "славутага навукоўца, жывога класіка" Джошуа Фішмана, спецыяліста па мовах, лёс якіх знаходзіцца пад пагрозай. У Фішмана ён і знайшоў "трапную" кваліфікацыю дзейнасці такіх недарэкаўрамантыкаў, як Н. Гілевіч, Л. Лыч і іншыя: ***"сляпое рамантычнае захапленне этнічных прастафіляў"***. Ах, як здорава! Брава, Сяргей Мікалаевіч, брава! Як вам дагадзіў "славуты навуковец" і "жывы класік"! Так і бачу, як у Фішмана разрываецца сэрца ад болю за лёс беларускай мовы і беларускага народа. Тут ужо супроць не папрэш: навука ёсць навука. Тым больш, калі яе творцы – жывыя класікі.

Не ведаю, наколькі сацыялінгвіст Фішман спасціг сённяшнюю моўную сітуацыю ў Беларусі і наогул наколькі ён дасведчаны ў гісторыі нашага народа, нашай краіны. Упэўнены, аднак, што да высноў навукоўцаў трэба падыходзіць гістарычна канкрэтна, бо раз на раз не прыходзіцца. Скажам, тое, чым кіруюцца ў клопатах пра сваю мову валійцы, практыку і досвед якіх ставіць нам у прыклад С. Запрудскі, для беларусаў можа быць далёка не ва ўсім прыдатным і павучальным. Хаця б таму, што ў адрозненне ад валійцаў (уэльсцаў), беларусы маюць сваю суверэнную, прызнаную светам, дзяржаву, што беларуская мова была на працягу чатырох стагоддзяў (XIV-XVII) дзяржаўнай мовай. Чытаючы навуковыя даследаванні Фішмана (на здароўе, хто ж супраць), можа, будзем усё-такі перш на перш помніць вялікі запавет Багушэвіча і практычна кіравацца ім? Наогул, трэба больш асцярожна кідацца ў розныя этнічна-моўныя паралелі. У валійцаў (іх каля 900 тысяч) захаваліся толькі рэшткі іх мовы, жыццё якой яны намагаюцца прадоўжыць. Памажы ім, Божа! Валійцы прэтэндуюць толькі на культурную аўтаномію, бо пра дзяржаўную незалежнасць Уэльса і гаворкі быць не можа: яны складаюць толькі адну трэць насельніцтва Уэльса, а дзве трэці – англічане. Як жа можна іх статус параўноўваць са статусам народа Беларусі?

Можа стацца, што, прачытаўшы маю рэпліку, С. Запрудскі скажа: ну, вось, загаварыла амбіцыя, а прыслухацца да прагматычных прапаноў жадання няма. О калі б гэта было так – усяго на ўсяго амбіцыя! Але пра якія амбіцыі мы, беларусы, можам сёння гаварыць? Тут не да амбіцый, сябры. Мову трэба ратаваць, дарагія-шаноўныя, мову! Дзяржаўны суверэнітэт Беларусі трэба ратаваць, бо без яго ніколі не ўратуем мову! С. Запрудскі "зайздросціць" Янку Брылю, бо вось той яшчэ ў кастрычніку 1995-га ведаў, што рабіць, каб выйсці са становішча, а для яго, для Запрудскага, гэта і сёння тэарэма з многімі невядомымі. Дзіўна, калі так, вельмі дзіўна! Але ці не хітрує С. Запрудскі? Не можа быць, каб і ён не ведаў, што і як трэба рабіць у нашым становішчы. Каб не разумеў, што трэба вярнуць у жыццё Канстытуцыю 1994 года, паводле якой беларуская мова – адзіная дзяржаўная мова ў краіне. І ўся тэарэма. І не трэба шукаць у Фішмана абгрунтавання памылковасці пазіцый, якіх трымаюцца "ідэалісты-ўтапісты" ў ТБМ.

С. Запрудскі аж надта ўпэўнена заяўляе: беларуская мова ніколі не будзе панаваць у Беларусі, як руская ў Расіі, як польская ў Польшчы і нават украінская на Украіне (між радкоў: бо яе лёс такі ж, як валійскай). Вось такі прысуд. Чаго вы лезеце са сваімі эмоцыямі! Усё адно нічога вы не даб'ецеся, усё адно будзе так, як сказаў Фішман. Будзе, паўтараю, пры адной умове: калі Беларусь перастане быць незалежнай дзяржавай. Тады – безумоўна: наша мова будзе ўсё больш і больш выцясняцца з грамадскага ўжытку, а заадно і з побыту (гэты працэс – татальны). А калі дзяржаўнай смерці Беларусі не наступіць – беларуская мова запануе на сваёй зямлі, запануе! Ужо ў 1993-94 гадах яна чулася ў Менску амаль паўсюдна, і ніхто яе не саромеўся, тым больш не перакрыкваў на высокай трыбуне. І гэта толькі за чатыры гады свабоды! А калі б за 34? А за 64? Сяргей Мікалаевіч, давайце зробім нашу мову ў нашай краіне адзінай дзяржаўнай, а тады пажывіце (я вам шчыра жадаю) яшчэ 64 гады, і вы пабачыце, запануе ці не запануе беларуская мова ў Беларусі. Як жа можна сёння загадзя яе адпяваць і ўводзіць людзям у вушы: не старайцеся, усё роўна наша мова не запануе!

І на завяршэнне гэтай змушанай рэплікі. Рыторыка "этнічных прастафіляў", наконт запанавання беларускай мовы ў Беларусі, піша Запрудскі, можа "толькі дызарыентаваць тых, хто будзе такія задачы ставіць". Усё наадварот, паважаны Запрудскі. Дызарыентацыя, прычым вельмі небяспечная, утрымліваецца ў вашай канцэпцыі Стратэгіі, дызарыентацыя, якая, не дай Бог, будзе падтрымана бальшынёй, можа даць трагічныя вынікі. Бясконца шкадую, што нават актывісты ТБМ гэтага не разумеюць. Ці – разумеюць, але – так трэба? А чаму і не? Раскалолі нацыю, раскалолі беларускую дыяспару, раскалолі БНФ, раскалолі сацыял-дэмакратычную Грамаду, намагаюцца раскалоць Саюз пісьменнікаў. На чарзе – ТБМ? Вельмі і вельмі можа быць.

***P.S.*** *Нехта з чытачоў можа сказаць: вы абразіліся, што нам, беларусам, ставяцца ў прыклад валійцы. Дык ведайце: валійцы і іх мова, хоць у культурнай аўтаноміі, будуць жыць, бо яны пад Англіяй, а мы, беларусы і наша мова, здохнем, бо мы будзем пад Расіяй. Расія – гэта вам не Англія.*

*Ніл Гілевіч.*

# Арнольду Макміліну -60



Сярод тых, хто актыўна і плённа даследуе і папулярызуе беларускую культуру за мяжой, Арнольду Макміліну па праву належыць адно з першых месцаў.

Нарадзіўся Арнольд Барат Макмілін 21 чэрвеня 1941 года ў Вялікабрытаніі, у Ньюкасл-апон-Тайн. Скончыў Школу славянскіх і ўсходне-еўрапейскіх даследванняў Лонданскага універсітэта. У 1973 годзе абараніў дысертацыю "Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX ст." Да гэтага ж часу адносяцца і яго лінгвістычныя публікацыі пра Я. Ф. Карскага і абстрактную лексіку беларускай літаратурнай мовы XIX ст. Пазней пра праблемы беларускай мовы вучоны напісаў шэраг аглядных артыкулаў для энцыклапедычных даведнікаў і розных абагульняльных прац.

Але, безумоўна, самы важкі яго ўнёсак у справу знаёмства з беларускай культурай на Захадзе -- гэта працы, прысвечаныя беларускай літаратуры. Найбольш поўна яго талент, як вучонага раскрыўся ў манаграфічным даследванні "Гісторыя беларускай літаратуры ад яе вытокаў да сённяшніх дзён" (1977). У гэтай працы ўпершыню былі ўлічаны набыткі заходне-еўрапейскай славістыкі, уведзены новыя імёны: беларускіх эмігрантаў і літаратараў Беласточчыны. Наступным значным укладам стала выданне зборніка "Снуецца зданяў рой" (1982), у якім знайшла яркае адлюстраванне паэзія М. Багдановіча, А. Гаруна, З. Бядулі з дасведчанай прадмовай А. Макміліна, у таленавітых перакладах В. Рыч. Трэба дадаць пераклад на англійскую мову (разам з В. Рыч) знакамітай паэмы "Тарас на Парнасе" (1977), публікацыю да таго часу незнаёмага рукапіснага зборніка вершаў 1945-1947 г.г. Л. Геніюш (1992).

Новае грунтоўнае даследванне: "Беларуская літаратура 50-60-ых гадоў. Вызваленне і аднаўленне", якое сёлета выдаецца на беларускай мове. Макмілін працуе над манаграфіяй па беларускай літаратуры 70-90-ых гадоў, выдае новую кнігу "Беларуская замежная літаратура". Дзякуючы яго даследванням беларуская філалогія шырока ўваходзіць у культурнае жыццё не толькі Вялікабрытаніі, ЗША, Канады, Індыі, але і іншых краін свету.

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Арнольда Макміліна з 60-годдзем і жадаюць яму плёну на ніве папулярызацыі беларускай мовы і літаратуры ў свеце.**

*Больш падрабязна пра А. Макміліна чытайце ў №№ 25-26 газеты "Культура" за 30 чэрвеня - 6 ліпеня 2001 г.*





## Да 125-годдзя з дня нараджэння Цёткі

# Песня і кветка роднага краю



*Адразу прызнаюся шаноўнаму чытачу ў сваёй даўняй любові да Цёткі. А перадалося мне гэта пачуццё на глухім лясным хутары пад Астрыною ад роднага таты Васіля Жалкоўскага, беднага селяніна, які хадзіў у школу толькі дзве зімы, але меў нязгасную цікавасць да кніг і газет. Дзякуючы любаму бацьку, я напярэдадні другой сусветнай вайны ўмеў чытаць (калі мне было толькі шэсць гадоў), ведаў святыя для беларусаў імёны Якуба Коласа і Цёткі.*

Пасля жахлівай вайны мінула першае паціголддзе і воляй лёсу мне давялася працаваць у мястэчку Астрына адказным сакратаром Васілішкаўскай раённай газеты, і неўзабаве зведаць радасць ад навіны, якая тычылася ўшанавання памяці Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Помніцца, па даручэнню рэдактара Платона Дубовіка панёс я старшыні райвыканкаму Феафану Паўлавічу Шабету тэкст дакладу, з якім кіраўнік колькі дзён назад выступаў на сесіі раённага Савета дэпутатаў. Аддаў галаве раёна папку з паперамі і памкнуўся да дзвярэй. Ды раптам чую голас гаспадара: "Пачакай, хлопча! Зараз нешта табе пакажу". Ф. Шабета дастаў з шуфляды стала эскізы помнікаў паэтцы і сказаў: "Па аднаму з праектаў паўстане помнік Цётцы ў Астрыне. Толькі невядома калі". Не ведаў тады я, жаўтароты камсамолец, як у нас усё складана закручана-перакручана.

Так, гэта была радасная навіна і аб ёй у асяроддзі нешматлікай інтэлігенцыі ды чыноўнікаў гаварылі не менш, чым аб намеры ўладаў перайменаваць Астрыну ў гарадскі пасёлак Калініна, адпаведна змяніўшы назву Васілішкаўскага раёна на Калінінскі. Але гэтага не адбылося, а праз некалькі гадоў раён зусім скасавалі. Запланаваны ж помнік знакамітай землячцы паўстаў ля будынка новай школы.

Пра шчырую любоў да паэткі ў астрынскай старане сведчыў праведзены ў траўні 1953 года шматлюдны фэстын у вёсцы Стары Двор, дзе ля старога гасцінца яна пахавана. Не асмелюся сцвярджаць, каму тады належала ініцыятыва правесці такую ўрачыстасць. Добра памятаю адно: падрыхтоўкай да незвычайнай маёўкі былі заклапочаны ў райвыканкаме і рана, райкамах партыі і камсамолу, рэдакцыі "раёнкі"... Будучай падзеяй жылі нашы мясцовыя паэты Сяргей Бандарэнка і Іван Манкевіч, вядомы песняр Прынямоння Міхась Васілёк, адказны сакратар газеты "Гродзенская праўда" Аляксандр Кіркевіч. Два апошнія часта наведваліся ў Астрыну, унікаючы ў дэталі падрыхтоўчай работы.

Бандарэнка і Кіркевіч, мае старэйшыя сябры па друку, гаварылі мне, тады сакратару райкама ЛКСМБ: "Глядзі, Алесь, не падвядзі са сваімі камсамалятамі". І я ды актывісты стараліся. Гэта ж да нас была звернута публіцыстыка Цёткі – артыкулы "Да вясковай моладзі беларускай", "Шануйце роднае слова!", "Да дзяўчатак", "Аб душы маладзёжы", "Да школьнай моладзі". Бо гэтыя творы не проста спадчына, а і вялікі запавет.

У падрыхтоўцы да паэтычнага свята вызначыліся многія маладыя людзі. Настаўнікі, камсамольскія актывісты калгасаў, работнікі сельсаветаў... Ніхто іх у той час не хваліў з раённай трыбуны ці ў мясцовай газеце. І зараз, амаль праз паўстагоддзя з той пары, мне хочацца прыгадаць імёны тых, хто разам з вучнямі збіраў на Цётчын фэстын вясновыя кветкі, укладваў майстэрства і душу, плетучы адмысловыя вянкі і вяночкі, рэпетыруючы да свята нашы родныя беларускія песні, дэкламацыю вершаў паэткі. Гэта Таццяна Сільвановік і Надзея Ляпеша, Ганна Карсакова і Аляксандр Харытонаў, Ганна Амялешка і Валянціна Махнач, Марыя Бярнадская і Аксана Іванова, Яўгення Токць і Канстанцін Бурак, Ганна Лецяноўская і Аляксей Нясцёркін, іншыя добраахвотныя памочнікі.

Хай не падумае чытач, што фэстын у гонар Цёткі рыхтаваўся ў пачатку 50-х гадоў ужо мінулага стагоддзя ў асноўным маладымі рукамі. Не засталіся ў баку і сталыя людзі. Не магу не ўспомніць светлай памяці дырэктара Шастакоўскай школы А. Р. Рэўт. У такі час сталоўкі працавалі, акрамя райцэнтра, у мястэчках Васілішкі, Новы Двор, Сабакінцы (зарад в. Першамайская). Вось чаму так да месца была гасцінасць Алены Рыгораўны, якая разам з іншымі ўзяла на сябе клопат пакарміць людзей, што прыехалі з Горадні і Вільні, іншых мясцін. Нельга не ўспомніць тагачаснага дырэктара Хадзілонскай НСШ І. М. Тарасевіча. Іван Міхайлавіч ад імя грамадскасці зачытаў на ўрачыстасці рэзалюцыю. У ёй выказвалася просьба да ўраду Беларусі паспрыяць устанаўленню ў Астрыне помніка Цётцы і прысвоіць яе імя Астрынскай сярэдняй школе.

Яшчэ колькі слоў аб тым літаратурным свяце. На фэстын у гонар Цёткі тады сабралася звыш тысячы чалавек. Для невялікага раёна згадзіцеся, нямала. Вельмі шмат было сялян з навакольных вёсак, настаўнікаў. Адны ехалі на фурманках ці раварах, іншыя дабіраліся ў Стары Двор пешшу. Бабулі ішлі ўшанаваць любімую ў народзе Пашкевічанку з унукамі. Вясковыя маладзіцы былі апранутыя ў самаробныя блюзкі-вышыванкі, прыгожыя спадніцы. А колькі было кветак! Шматлюдны сход замоўк, калі слова атрымаў Аляксандр Кіркевіч. Ён расказаў аб жыцці, літаратурнай і рэвалюцыйна-дэмакратычнай дзейнасці славутай зямлячкі. З успамінамі пра Цётку выступіла яе стрыечная сястра Шмігіра. Прысвечаныя Алаізе Сцяпанаўне вершы прачытаў паэт Пятрусь Макаль. А потым гучалі вершы паэткі ў выкананні вучняў Шастакоўскай школы.

Тая даўнейшая ўрачыстасць не прымяркоўвалася да якога юбілею пісьменніцы, а была праведзена проста як даніна памяці слыннай зямлячкі і засталася ў памяці тутэйшых людзей і ў наш час, калі мы жывём у новым веку і тысячагоддзі. Прыемна адзначыць, што пекная справа знайшла добры працяг. Так, летам 1976 года ў Астрыне і Старым Двары адбыліся святы паэзіі да 100-годдзя з дня нараджэння Цёткі. Тады на радзіму паэткі прыехалі дэлегацыі з усіх раёнаў вобласці, шмат было сталічных гасцей. Перад маімі вачыма як сёння паўстаюць ідучыя пакланіцца Пашкевічанцы з кветкамі маладыя ў той час Ніл Гілевіч і Іван Шамякін. За імі ішлі сакратар абкома партыі Еўдакія Емельянава і намеснік старшыні аблвыканкама Сяргей Пронька, кіраўнікі Шчучыншчыны, прадстаўнікі іншых раёнаў.

А колькі цёплых і ўзнёслых слоў было сказана ў тыя дні пра любую Цётку! Яе, кветку і песню роднага краю, усхвалявана ўслаўлялі Янка Брыль і Васіль Быкаў, Сцяпан Александровіч і Мікола Аўрамчык, іншыя пісьменнікі. Свае вершы, прысвечаныя Пашкевічанцы, прачыталі Мікола Арочка і Анатоль Вярцінскі, Вера Вярба і Пятрусь Макаль, Юрка Голуб і Васіль Зуёнак, Казімір Камейша і Данута Бічэль... Чулася і літоўская мова. Поўныя шчырай любові паэтычныя радкі пра нашу пісьменніцу напісаў Робертас Кешуракіс з Вільні.

Мне прыемна нагадаць, што ў рэспубліканскім свяце паэзіі, прысвечаным 100-годдзю Цёткі, удзельнічалі многія калектывы Лідчыны. З самымі прыгожымі кветкамі ехалі тады ў кірунку Васілішак дзяўчаты і хлопцы з Ваверкі, Малога Мажэйкава і Паперні, Ліды і Бярозаўкі, іншых мясцін. А назад вярталіся поўныя ўражанняў. З томікамі незабыўнай Цёткі і аўтографамі любімых пісьменнікаў прыехалі дадому хлебароб ваверскага калгаса Л. Марціновіч, рабочы шклозавода "Нёман" І. Расямчук, настаўніца СШ № 6 г. Ліды Н. Буйніцкая, іншыя лідчане.

Годна адзначаліся на зямлі Цёткі 110-я і 120-я яе ўгодкі. Да апошняга юбілею ў Шчучыне была прымеркавана навукова-тэатральная канферэнцыя. А заключным акордам урачыстасцяў у гэтым горадзе стала адкрыццё скульптурнага помніка Цётцы. Юбілейныя імпрэзы адбыліся і ва ўстановах культуры Лідчыны.




Помнік Цётцы ў Астрыне

І вось новы юбілей. На радзіме Цёткі, у Лідскім і іншых раёнах маюцца адбыцца рознага кшталту мерапрыемствы, прысвечаныя 125-годдзю з дня нараджэння таленавітай паэткі і асветніцы. А мне, аглядаючыся на мінулае паўстагоддзе, хочацца сказаць аб зробленым за гэты час дзеля захавання памяці аб пісьменніцы-рэвалюцыянерцы. Пра што я думаў сёлетняй вясною, стоячы перад помнікам Пашкевічанцы ў Астрыне. Цудоўна, што мясцовай школе прысвоена імя знакамітай зямлячкі, што тут стараннямі настаўніцы Галіны Пугач і іншых краязнаўцаў адкрыты музей паэтэсы. Не можа не радаваць беларусаў з'яўленне новага рамана пра Цётку "Крыж міласэрнасці". Дарэчы, аўтару кнігі Валянціне Коўтун садзейнічалі ў зборы матэрыялу пра зямлячку і лідскія журналісты. Па іх жа хадатайніцтву адна з вуліц Ліды названа імем Цёткі.

Калі я ў думках размаўляю з шаноўнай Пашкевічанкай, міжволі апаноўвае неспакой, што мы ў даўгу перад памяццю таленавітай пісьменніцы. Чаму б педнавучальні ў Лідзе, горадзе, дзе яна адну зіму вучыла дзяцей, дзе пахаваны яе бацька, не насіць імя паэткі? Да месца сказаць, у свой час лідскі настаўнік-паэт Міхась Мельнік і калектыў педнавучальні выступілі з такой прапановай. Але, але... Чаму ў Шчучынскім і Лідскім раёнах няма ніводнага калгасу імя Цёткі, чаму мала ў якім горадзе краіны сустрэнеш яе вуліцу? Хіба можна такое ўявіць на недалёкай Украіне ў, адносінах да Лесі Украінкі? Ні ў якім разе! Або ўзяць такі факт. Пры непасрэдным удзеле нашай зямлячкі ў 1915 годзе ў Вільні было адкрыта пяць беларускіх школ. Сёння ж у Менску ці ёсць столькі школаў, заняткі ў якіх вяліся б на роднай мове...

Словам, шлях да Цёткі, як і да Беларусі, даецца нялёгка. Прабач нам за гэта, мілая Пашкевічанка! І ведай, шаноўная: мы і надалей будзем высока цаніць тваю творчасць, вучыцца ў цябе чалавечай дабрыні, разам дзелячы людскія радасці і нягоды.

*Алесь Жалкоўскі,*
*Ліда.*




Помнік Цётцы ля Шастакоўскай школы





*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Спарцмен прачыніў дзверы, і туды шуганулі хворыя, але ён распрасцёр рукі і стрымаў людзей. Пад час напружанай барацьбы ён крыкнуў у людскі натоўп.

— Коля!

На покліч, распіхваючы ва ўсе бакі хворых, прабраўся малады чалавек, які таксама меў магутныя плечы.

Яны ўдвух з вялікімі патугамі змаглі зачыніць дзверы.

— Ну што я вам гаварыў, доктар? Упэўніліся?!

— Ой! — застагнала медсястра. — Сягоння, як ніколі, многа хворых.

— Бачыш, доктар! Хлопец здаровы. Не калека. Падпісвай. Усе падпісвай.

— Не, хлопцы! Так нельга.

— Можна. Усё можна, калі асцярожна.

— Асцярожна... Калі сярод вас знойдзецца бязногі ці бязрукі, а я падпішу, што ён здаровы — тады як?

— Доктар, не будзь бюракратам. Мы, напэўна, год пяты праходзім такія камісіі. Загляні ў амбулаторныя карткі, і ты ўпэўнішся ў гэтым. Падпішы.

*Язэп Палубятка*



Астапчык цяжка ўздыхнуў, моўчкі падсунуў кіпу амбулаторных картак да сябе і, з недаверам пераглядаючы запісы апошніх гадоў, стаў падпісваць іх.

Коля і спарцмен пра нешта перашэптваліся.

— Доктар! Ты добры чалавек... — лагодна ўсміхнуўся спартсмен, калі апошняя амбулаторная картка была падпісана, і прамовіў. — Там неўрапатолаг — жанчына. Разумееш, яна пасля начнога дзяжурства сонная, як муха... Не хоча нас сёння прымаць...

— Ну і што?

— Чыркні за яе...

— Ой, не! Не! Сястра, выклікайце наступнага.

Тут дзверы рэзка расчыніліся і ў пакой уварваўся галоўны ўрач райбальніцы Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч. Нават самыя жвавыя хворыя і цяпер не змаглі трапіць на прыём.

Доктар, відаць, адразу зразумеў сваю віну і спрабаваў сказаць штосьці ў апраўданне, але Улановіч трос яго настолькі моцна, што не было ніякай магчымасці нармальна раскрываць і закрываць рот. Прыгожая чупрына Астапчыка, якую жадалі гладзіць так многа дзяўчат і маладзіц, мантляхалася з боку на бок.

Спарцмен спачатку здзіўлена сузіраў сардэчную размову начальніка і падначаленага, але калі ўпэўніўся, што яна зацягваецца і невядома калі скончыцца, вырашыў умяшацца. І ўмяшаўся даволі арыгінальна.

Удар быў непадзяваны і трапны. У самае пераноссе. Улановічу сцямнела ў вачах, быццам каханка выключыла святло перад тым як прапанаваць салодкія ўцехі кахання. Ад нечаканасці ён адпусціў доктара, а сам не ўстрымаўся на нагах і грымнуўся галавою аб падлогу так, што на паліцах шафы падскочылі і перавярнуліся шматлікія бутэлечкі і шклянкі. Медсястра, якая да гэтага часу моўчкі назірала за развіццём аднаго з канфліктаў мясцовага значэння, толькі пляснула ў далоні.

— Хлопцы, асцярожней! Бутэлечкі паб'юцца, лекі выльюцца...

Яна хуценька падбегла да шафы і засланіла сабою шкляныя дзверы, упэўненая, што тым справа не скончыцца.

Жанчына памылілася. Сардэчная размова паміж галоўным урачом Улановічам і хірургам Астапчыкам не мела далейшага працягу. Сцяпан Сцяпанавіч хуценька ўскочыў на ногі і пагдядзеў на ўсіх, хто прысутнічаў тут, не вельмі ўдзячным позіркам. Вочы яго ад удару сталі чырвонага колеру. Аб гэтым, крыху пазней, яму паведаміла вельмі ўзбуджаная, амаль радасная, сакратарка. А зараз ён паспешна, так, як і зайшоў, выйшаў. Усе маўчалі. Толькі доктар Астапчык спалохана пракрычаў яму ўслед.

— Я ўжо пішу... Я пішу... Пішу.

Калі галоўны ўрач з ганьбаю ўцёк, доктар сеў на казённае крэсла, куды звычайна запрашаў сядаць хворых, дрыготкімі рукамі выліў у шклянку бутэлечку валяр'янкі і выпіў... Праз некалькі хвілін супакоўся і пад ласкавыя позіркі хлопцаў зноў прыцягнуў да сябе кіпу амбулаторных картак.

Цяпер ён мог напісаць "здаровы" любому чалавеку, нават і хвораму і за любога іншага доктара. Спарцмен з хваляваннем пачаў гаварыць:

— Правільна. Напішыце нашым дурням, што яны здаровыя... Правільна. Якога чорта яны будуць шляцца па пакоях і не даваць людзям нармальна працаваць. Так, гэта нашыя. У асноўным усе, толькі там яшчэ два наркоты засталіся. Пайшлі пахмяляцца.

Астапчык урэшце адпусціў хлопцаў, а сам стаў хуценька пісаць гісторыю дзіўнай хваробы першага сакратара райкама партыі Антона Пятровіча Крыніцы.

XIII

Нічыпар Кузянкоў у аддзеле кадраў раённай бальніцы значыўся вартаўніком (у нашым, вядома, уяўленні ён павінен быць у кажушку і са стрэльбаю ), але кола яго абавязкаў было значна шырэйшым. Такіх кашто́ўнасцяў, якія ён павінен быў ахоўваць за Нічыпарам не значылася. Праўда, у яго распараджэнні быў конь, і ён даглядаў каня. Іншы раз запрагаў яго Кузянкоў у стары воз-развалюху і рабіў выезд у горад, але вазіць нічога не вазіў. Конь быў замацаваны за бальнічнай сталоўкай, але ежу ў каструлях і тэрмасах разносілі па аддзяленнях самі кухаркі, санітаркі, нянечкі і іншы медперсанал. "Жывёлу трэба берагчы!" — заўжды павучальна заўважаў Нічыпар Кузянкоў, калі да яго звярталіся з просьбай падвесці што-небудзь, і ішоў у сталярку. Там ён добрасумленна і старанна дапамагаў свайму сябру сталяру Прэйсу рабіць нейкую халтуру на "калым". У гэтым выпадку Кузянкоў не адыходзіў ад сталяра ні на крок.

Іншы раз Кузянкову даводзілася сёетое рабіць на карысць раённай лякарні, але гэта былі выключныя выпадкі, і толькі тады, калі гэта сёе-тое прасіў асабіста зрабіць галоўны ўрач. Тады ён працаваў з вялікай радасцю і нават выхваляўся: "Без мяне ніхто не можа абысціся".

Працаваў Кузянкоў да тога часу, пакуль за ім назіраў галоўны ўрач.

Гэта быў той тып гультаёў, якія мала таго што нічога не робяць, але хочуць яшчэ, каб ім плацілі болей грошай.

Шафёр "Станцыі хуткай медыцынскай дапамогі" Міша Гумбар, прафесійна круцячы на пальцы ключы ад машыны, знайшоў Нічыпара Кузянкова на бальнічнай кухні, дзе той распавядаў кухаркам тэхналогію прыгатавання свіных каўбас у мусульман і настойліва дабіваўся, каб паласавацца звычайнымі катлеткамі з хлеба.

— Казюня, пайшлі! Справа ёсць.

— Няма часу. Бачыш, я заняты!

— Давай хуценька! Гэта я не маю часу.

— Ты малады. Не спяшайся, інакш хутка старым станеш, — павучальна заўважыў вартаўнік-конюх Нічыпар Кузянкоў.

— Пайшлі. Дапаможаш паднесці.

— Ты здурэў, ці што? Я хворы чалавек. Мне нельга цяжкасці пераносіць. Магу даведку паказаць. — і з гэтымі словамі ён палез у кішэню.

— Як хочаш. Знайду другога памочніка. Але твой лепшы сябар Колька Зотаў сказаў мне: "Вазьмі ў памочнікі Кузянкова".

— Мікалай Андрэевіч прасіў, значыць? Што ж ты, баран, адразу мне так не сказаў. Пайшлі хуценька.

Сяброўства Зотава Мікалая Андрэевіча і так званага вартаўніка Нічыпара Кузянкова пачалося даўно. Яно мела пад сабою трывалы фундамент — казённы спірт.

Чым займаўся доктар Зотаў?

Каб не палохаць людзей навуковай тэрміналогіяй, не забіваць галовы ўсякай дурнотай ды яшчэ на нікому непатрэбнай лацінскай мове, скажам проста і зразумела — рэзаў трупы нябожчыкаў.

У гэтым горадзе пра нябожчыкаў не гаварылі "даў дуба", "сыграў у скрынку", "злажыў рукі" ці "заплюшчыў вочы", казлі проста: "Пайшоў на стол да Зотава". Усіх іх — нябожчыкаў — маладых і старых, людзей сярэдняга веку, мужчын і жанчын, падлеткаў і немаўлят, забітых, вісельнікаў, утопленых, задушаных і проста памерлых, ён крамсаў скальпелем.

Нягледзячы на сваю паганую працу, гэта быў культурны чалавек, з усімі размаўляў на паўголаса, спакойна і заўжды на "вы", нават з самым апошнім прайдзісветам.

Ён шмат чытаў, шмат ведаў, але для людзей заўжды заставаўся дзіваком, таму што ён не піў, хоць быў зусім здаровым чалавекам.

Да Нічыпара Кузянкова ў доктара Зотава былі асаблівыя адносіны. Яны нагадвалі адносіны ўдзячнага сына да аблуднага бацькі.

Прынцыпова, па-інтэлегенцку, каб не турбаваць санітарак-пенсіянерак, якія самі хістаюцца ад ветру, Зотаў кожны раз пасылаў па нябожчыка ў трупярню якоганебудзь шафёра са "Станцыі хуткай дапамогі" і заўжды прасіў, каб той узяў у дапамогу Нічыпара Кузянкова.

За гэтую паслугу Зотаў, які прынцыпова ніколі не піў, наліваў мужчынам сто грамаў казённага спірту, але шафёр звычайна спасылаўся, што ён "за рулём" і заўжды адмаўляўся, а Кузянкоў быў вельмі рады і адразу выпіваў спірт на месцы, нават не разбаўляў вадою і пры гэтым заўжды казаў адну і тую прымаўку: "Дарэмнаму каню ў зубы не глядзяць". Зотаў кожны раз з замілаваннем назіраў душэўную радасць Кузянкова, з якою ён знішчаў казённую атруту, затым цяжка ўздыхаў і з зайздрасцю прамаўляў: "Могуць жа людзі". Шмат выпіў казённага спірту Нічыпар Кузянкоў за гады свайго супрацоўніцтва з міністэрствам аховы здароўя, але яму заўжды здавалася, што вельмі мала.

... У такіх выпадках Кузянкоў ніколі не марудзіў.

Ён выхапіў з рук Мішы Гумбара ключы і пашыбаваў да трупярні. Гэтую ўстанову зачынялі на вялікі навясны замок: баяліся, каб хто-небудзь з нябожчыкаў не ўцёк. Праўда, яшчэ не было такіх выпадкаў. Нават не было і спробы.

... Але чаго толькі не бывае на гэтым свеце.

Задаволены нечаканым падарункам лёсу, Нічыпар рэзка адчыніў дзверы насцеж.

На насілках, сагнуўшыся і абхапіўшы рукамі ногі, сядзеў Ванька Бубянцоў і дрыжаў ад холаду.

Ён ужо страціў усялякую надзею на сваё выратаванне, а тут раптам ... святло, людзі ў дзвярах. Чалавека апанавала радасць неспадзяванага выратавання. Бубянцоў усхапіўся на ногі, але цела за час незвыклага зняволення задубянела так, што яго нельга было выпраставаць. Рукі, нібы вяроўкі, матляхаліся ля калень. Сваім цяперашнім абліччам Ванька Бубянцоў быў вельмі падобны да гарылы.

Ванька, калі праспаўся, палічыў, што гэта жонка пасадзіла яго на згубу ў нейкую лядоўню. Цяпер яму хацелася што сілы крыкнуць на яе. Але ён агледзеўся — жонкі перад ім не было, стаялі толькі нейкія незнаёмыя мужчыны. У галаве мільгнула здагадка: хахалі яе дабіваць прыйшлі. Замест крыку атрымалася: і-і-і-э-э-э. Тонкае і віскліва.

Нічыпар Кузянкоў, які першы раз прысутнічаў на вяртанні чалавека з таго свету, паставіў вочы пад лоб і, нібы салдат, пад час атакі скошаны варожай куляй, упаў на зямлю.

Міша Гумбар — чалавек непалахлівага дзесятку — ад нечаканасці аж пабялеў і дрыготкім галасам запытаў былога нябожчыка:

— Ты што, ажыў?

Ванька Бубянцоў, які яшчэ не мог разагнуцца, зрабіў крок наперад, пасля чаго ў яго зноў, як вяроўкі, доўга матляхаліся рукі і ніяк не маглі супакоіцца. У сваю чаргу ён таксама запытаў:

— А я што, памёр? — пры гэтым увесь час працягваў дрыжаць.

Нягледзячы на незвычайную і складаную сітуацыю, Міша Гумбар усё зразумеў, супакоіўся і далей працягваў размову жартамі, якія неапахмеленая галава Ванькі Бубянцова з прапітымі і замёрзшымі мазгамі ніяк не магла зразумець.

— Жывых людзей у трупярню не кладуць.

Бубянцоў ірваўся да цяпла і сонца, таму ён сабраў апошнія сілы і зрабіў крок наперад. (Цяжка ўсё даецца першы раз на гэтым свеце!). Спыніўся і агледзеў будынак у якім яму давялося правесці нямала часу. Затым утаропіўшыся на насілкі, на якіх яго прынеслі сюды. Назіранкі выклікалі душэўны непакой, і ён нявесела пагадзіўся з Гумбарам:

— Праўда.

— А калі праўда, дык пайшлі.

— Куды?

— Да Зотава, вядома.

— Чаго?

— Ён рэзаць цябе будзе.

— Навошта? Я ж жывы.

— Гэта як сказаць, брат. Па паперах — ты памёр. Атруціўся ад гарэлкі. Паперы сведчаць, што цябе няма на гэтым свеце. Аджыў сваё. Адпіў. Адгуляў. Засталося толькі Колі Зотаву разрэзаць цябе і паглядзець, што там у сярэдзіне.

Разагрэтыя сонцам суставы Ванькі Бубянцова пачалі гнуцца, і ён раптам неспадзявана ўпаў на калені, а каб над ім зжаліліся незнаёмцы, хацеў яшчэ скласці на грудзях рукі, але не мог і, як злачынца перад гільяцінаю, пакорліва апусціў галаву, заплакаў і сказаў словы, якія з вялікім задавальненнем і гонарам кожны з нас запісаў бы на свой рахунак.

— Не губі душу чыстую.

— Якая яна ў цябе чыстая? Ты яе даўно ўжо брагаю запэцкаў.

— Не хачу да Зотава-а. Жыць хачу-у.

— Што? Жыць захацелася? Раней пра гэта трэба было думаць. На цябе ўжо выпісана пасведчанне аб смерці. Усё. Хана табе. Сушы дошкі.

— Я болей не бу-ду-у піць. Ніколі-і ў рот не вазьму.

Міша Гумбар, каб не марнаваць час, схапіў пад руку Ваньку Бубянцова і павёў яго з сабою.

Нічыпар Кузянкоў застаўся ляжаць на зялёнай траўцы.

XIV

Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч узяў у сакратаркі маленькае люстэрка і доўга вывучаў сваю фізіяномію. Ён урэшце, як доктар, зрабіў сумнае для сябе заключэнне: у гэтым выпадку медыцына не можа нічым дапамагчы. Адзіным выратавальным сродкам тут могуць быць толькі цёмныя акуляры.

Галоўны ўрач райбальніцы павесіў на нос чорныя акуляры і прыступіў да працы — пачаў вывучаць паперы, якія магутная бюракратычная машына пад назваю "Міністэрства аховы здароўя" штодня стосамі шпурляла яму на стол. Чорныя акуляры зусім былі не разлічаны, каб чытаць праз іх розныя пеперкі ды яшчэ ў шэрым пакоі. Літары расплываліся, былі ледзь бачныя.

Тут у кабінет Сцяпана Сцяпанавіча завітала яго ўласная жонка. Перад тым, як зазірнуць на свайго "даражэнькага мужа" яна наведалася на будаўніцтва новай палікліннікі, якую размясцілі побач са старой, і там паклала ў гаспадарчую сумку цагліну-паўтарачку.

Ёсць на свеце Бог — так сцвярджаюць людзі, і таму кожны злачынца павінен панесці кару.

*(Працяг у наступным нумары.)*





**Уладзімір Содаль**

# МАЯ МАЗЫРСКАЯ АРБІТА

*З Мазыра прыйшла кніжачка – зборнік вершаў пра палескую сталіцу.* ***"Ты, Мазыр, - мой Парнас"...*** *Папрасілі, калі пажадаецца, пачытаць і мо напісаць водгук, рэцэнзію. "Але ці маю я на гэта якоесь права?" – пачаў думаць я. – Згаданая кніжачка – гэта гімн Мазыру, а я ў Мазыры не жыў. Лічыць сябе мазырцам не выпадае... Хіба даць характарыстыку вершам пра Мазыр, якія змешчаны ў зборніку. Але гэта не вельмі цікава. А ці такі мне ўжо чужы і невядомы Мазыр?*

... Напрыканцы саракавых ці пачатку пяцідзесятых гадоў амаль кожнае лета я бавіў у невялікай лясной палескай вёсачцы Смалянка, што пад Каленкавічамі. У гэтай вёсачцы часта згадвалі Мазыр. Мяне тады ўразіў сам назоў – Мазыр. Дагэтуль я чую з вуснаў розных людзей у сваіх мясцінах, пераважна наездждых, гэты назоў у форме Мозыр. А тут скрозь увесь тутэйшы люд мовіў "Мазыр": - "Мой тата сёння ў Мазыр ездзіў". – казаў адзін. "Што Каленкавічы! – казаў другі. – Вось Мазыр – гэта горад!" І гэтак скрозь – Мазыр... Мазыр... Мазыр! І мне гэта імпанавала, і я тады ўжо лічыў, што гэтак палескую сталіцу, як называе тутэйшы люд, павінен называць увесь свет. І ніяк інакш! І не разумеў, адкуль узяўся Мозыр, калі ўвесь абарыгенскі палескі край гаворыць Мазыр.

Міную час. У 1955 годзе я скончыў школу. Настала пара абіраць свой жыццёвы шлях. І хтось мне нараіў, што лёс мой мяне чакае ў Мазыры. І я пішу пашыраную, заяву на імя колішняга дырэктара Мазырскага педінстытута Андрэя Эльмана з просьбаю, каб мяне ўзялі на вучобу незалежна ад таго, як я здам экзамены, бо я вельмі хачу вучыцца. Я адчуваў слабую школьную падрыхтоўку і спадзяваўся на спагаду, бо жыў і гадаваўся ў холадзе і голадзе, у вечнай нястачы і было не да вучобы. Пра ўсё гэта я напісаў у сваёй разгорнутай заяве. Памятаю, перад тым, як пісаць гэтую заяву, я камусь паказаў яе, і той падзівіўся з мае наіўнасці: "На гэта, - сказаў ён мне, - ніхто звяртаць не будзе ўвагі. Галоўнае, як здасі экзамены". А вось гэтага я як-раз і баяўся. Асабліва па рускай мове. Яна для ўсіх нас з большага была зразумелаю, але ніколі не была нам роднаю, і ў рускай мове мы ўсе былі непісьменныя. Тым не менш, я прасіўся на філалагічны факультэт. За беларускую ж мову я быў пэўны, а вось праз рускую меў турботу. І от прыйшоў выклік на экзамены.

Паехаў. Да Каленкавічаў на цягніку. А там кіламетраў з дзвацаць на аўтобусе. Не ведаю чаму, але гэты аўтобус не давёз нас да горада. Да самога Мазыра дабіраліся на лодках праз Прыпяць. Гэта было першае ўражанне. Мост, унізе яго якаясь вялізная нізавіна-поплаў. А мы на лодках пераплываем Прыпяць. Мне гэта падабаецца. Рамантыка! Вось як яно пачынаецца абітурыенцкае жыццё! Знайшоў будынак Мазырскага інстытута! Высока, на самай гары! Калі па-вясковаму разважаць, то можна нават падзівіцца: як толькі гэты, такі аграмадны гмах, узвалаклі на такую гару!..

Мазырскія горы! Яны незабыўныя. А між імі глыбокія яры з бярозамі на адхонах, на схілах! Што можа яшчэ больш маляўнічае для чалавека, які згадваўся на досыць раўнінай Жлобіншчыне! Імпанаваў мне і назоў вуліцы, на якой мясцілася мазырская альма матэр. Называлася яна мройным для абітуриента назовам – Студэнцкая. Гэта ж, дужа цікава: - быць студэнтам і яшчэ жыць на Студэнцкай вуліцы! У інстытуцкім будынку мяне запрыкмеціла прыбіральшчыца. Пацікавілася, што мяне турбуе. Патлумачыў, што прыехаў здаваць экзамены, але не ведаю, дзе жыць, у каго спыніцца. Па-беларуску шчырая мазыранка прачула выслухала мяне і забрала з сабою. Не памятаю, плаціў я ёй што ці не, хутчэй што не, з шчырага сэрца ўзяла да сябе, і я кватэраваў у яе, пакуль здаваў экзамены. У Мазыр я прыехаў за колькі дзён да іспытаў. Знаёміўся з горадам. Ён тады яшчэ быў ціхі, старасвецкі. Асобныя домікі нагадвалі мне Жлобін. Выразна памятаю: развінуцца гораду заміналі горы. Адна, самая, здаецца, уладкаваная вуліца цягнулася ўздоўж Прыпяці, ледзь не самым берагам прымыкала да яе якаясь яшчэ адна (больш-менш нізовенная вуліца. Згадаўся мне з гэтае нагоды дзесь чуты калісь вершык:

***Мазырок, Мазырок – адна вуліца ўздоўж, дзве – ўпапярок.***

Але настала самая адказная пара – экзамены! Усё адбылося, як я і адчуваў: На рускай мове я зрэзаўся на нет: атрымаў двойку ці мо ўвесь кол. Мазырскія інстытуцкія выкладчыкі спачувалі мне. Прыгадваю, хтось з іх казаў: "Чаму вы пайшлі на філалогію? Вам трэба было мо б іншым чым заняцца." Можа і трэба. Але мяне вабіла толькі філалогія і больш нічога. Шкада, што мазырскія выкладчыкі не разгадалі ўва мне прыроднага філолага. Мелі б за гонар, калі б узялі на вучобу, як гэта зрабіў праз тры гады Ф. Янкоўскі, і вывучылі б. І тады Мазырскі педагагічны інстытут стаўся б і маёй альма матэр. Пра гэта аднойчы, ужо працуючы на тэлевізіі, пры нагодзе расказаў колішняму рэктару Мазырскага педінстытута Андрэю Эльману, які быў на той час дырэктарам мазырскага музея. "А ведаеце, раз вы мелі цікавасць да філалогіі, але не мелі адпаведнай школьнай падрыхтоўкі, трэба было да мяне падысці". Можа, і трэба было. Але добра пра гэта цяпер казаць, калі ўсім сваім жыццём я даказаў, што філалогія – мая прыродная стыхія з маленства. А тады трэба было здаць хоць фармальна ўступныя экзамены. Хто мяне без гэтага слухаць захацеў бы!.. Хаця хто яго ведае! Знайшоўся ж чалавек, які паверыў у маю прыродную філалогію яшчэ да экзаменаў, не адмахнуўся, даў мажлівасць вывучыцца. Можа рэктар Мазырскага інстытута таксама такі ж чалавек, як і менскі прафесар Фёдар Янкоўскі. Ну але што не робіцца – усё да лепшага. Мазыр стаўся маёй першай спробай на прызнанне філолага, маёй рэпетыцыяй на маім філалагічным шляху.



Можа з гэтай нагоды, калі аднойчы перад мной паўстала пытанне, дзе мне правесці тэлевізійную сустрэчу з гледачамі "Роднага слова", рэдактарам якога я стаў, я абраў горад майго выпрабавання – Мазыр. І тая канферэнцыя якраз адбылася ў 1980 годзе ў Мазырскім педагагічным інстытуце. За маімі плячыма ўжо быў філалагічны факультэт Менскага педінстытута. Я, той, што зрэзаўся на экзамене па мове – рэдактар тэлевізійнай праграмы "Роднае слова". Хіба гэта не дзіва: Прыехаць у той горад з філалагічнай місіяй, у якім спрабаваў узбіцца на філалагічную арбіту...

Мазыр! Безумоўна, як мне мяркуецца, гэты палескі горад з такім незвычайным рэльефам, з Прыпяццю павінен быў стацца курортным горадам, горадам турыстаў. А тут узялі і збудавалі нафтаперагонныя заводы, камбінаты. Хіба гэта па-гаспадарску?!..

Вось такія згадкі абудзіў у маёй душы зборнік паэтычных твораў пра Мазыр – "Ты, Мазыр, - мой Парнас", які мне нададаслаў адзін з аўтараў гэтага зборніка Ігар Карабанаў, мой аднагодак, сябра з маленства і зямляк.

У згаданым зборніку шмат твораў, сугучных маім адчуванням. Гэта і "Мой Мазыр" Людмілы Піскун, "Прыпяцкі мост", "Вартуй Мазыр" Уладзіміра Верамейчыка, "Прызнанне праз гады" Алеся Лісіцкага. У кожным творы радкі любові да свайго горада, дакладныя штрыхі – азначэнні самых характэрных і непаўторных мазырскіх рэалій праз мастацкія вобразы.

***МОЙ МАЗЫР***

*На сямі пагорках, нібы Рым ў суквеццi,*
*Размясціўся горад – радуецца сэрца!*

*На сямі пагорках і сады і кветкі,*
*Школы і садочкі – радуюцца дзеткі!*

*Любы майму сэрцу родныя мясціны,*
*Тут усё знаёма – вуліцы, сцяжыны...*

*На адным з узгоркаў – лесвіца жывая,*
*То ідуць студэнты – змена маладая.*

***Людміла Піскун.***

*Едуць людзі здароўя шукаць*
*У Піцунду, Палангу, у Хмельнікі...*
*Сілы можна таксама набраць*
*У хваёвых у нашых Сядзельніках.*

*У ліпеях цвітуць старыкі,*
*Навісаюць ракіты над выспамі...*
*Нашы тут Залатыя Пяскі,*
*Берагі, што бурштынам усыпаны.*

*Едуць цуды шукаць на Памір,*
*У Сібір, на Каўказ, у Балгарыю...*
*Прыязджайце да нас у Мазыр –*
*У палескую нашу Швейцарыю.*

***Генадзь Манкевіч.***

Але Мазыр – гэта не толькі ягоныя адметныя краявіды, але і ягоныя людзі. У зборніку шмат вершаў – прысвячэнняў выдатным мазырскім дзеячам. Адзін з іх прысвечаны таму слаўнаму мазырцу, да якога кіраваўся калісь і мой філалагічны космас – Андрэю Эльману.

*Андрэй Пятровіч, у гэты дзень адметны*
*Дазвольце да зямлі Вам пакланіцца.*
*Вы – наш любімы, незабыўны рэктар,*
*Прыміце блаславенне, што бруіцца*
*Ад Мазыра, ад усяго Палесся,*
*Ад нашай роднай Прыпяці напеўнай,*
*Ад вучняў Вашых, што з пашанай, нізка*
*Схіляюць галаву, пачуўшы – Эльман.*

Добрую славу зрабіў укладальнік зборніка Васіль Андрыеўскі. Да слова, сам паэт і аўтар шэрагу вершаў пра Мазыр. Пад адну вокладку ён сабраў больш за сотню одаў непаўторнаму, адзінаму такому на Беларусі, а мо і ў свеце гораду шасцідзесяці пяці аўтараў, вядомых і мала вядомых. Сярод іх – Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Чарота, Міколы Хведаровіча, Уладзіміра Верамейчыка, Пімена Панчанкі, Васіля Віткі, Янкі Тулупава, Рыгора Няхая, Соф'і Шах, Алега Лойкі. Іхнія творы ўсе разам – гэта гімн найпрыгажэйшаму месту.

*Мазыр, Мазыр! Збягаеш ты*
*З прыгожых берагоў крутых*

*Да самай Прыпяці-ракі,*
*На прыбярэжныя пяскі.*

*Не менш чым тысячу разоў*
*Па-над табою час правёў*

*Вясну і лета за сабой,*
*Над гэтай стромкаю гарой.*

*Правёў ён тысячу і зім*
*Над гэтым берагам крутым.*

***Уладзімір Дубоўка.***

Хоць я і не мазыранін, не мазырац, але я пільна сачу, як і чым жыве сэрца нашага Палесся. А весткі адтуль ідуць усё больш і больш сумныя. "Няма ў Мазыры, гэтым сэрцы Беларускага Палесся, ніводнай беларускай школы," – з самотам паведамляе "Наша слова".

"У нашай газеты "Жыццё Палесся" толькі назва беларуская", - інфармуе мяне адзін з аўтараў згаданага тут паэтычнага зборніка. Раніц у самае сэрца. І гэта ў Мазыры – краі самабытнай культуры, краі нерушаў.

... Наклад кніжачкі трыста пяцьдзесят асобнікаў. Трыста пяцьдзесят мазырцаў будуць мець гэты гімн свайму гораду.

А астатнія? Хіба ім не хацелася мець пад рукою гэты першы ў гонар горада паэтычны зборнік?!

Як мне падаецца, такі паэтычны зборнічак павінен мець кожная мазырская сям'я!

Больш за шэсцьдзесят літаратараў выказала свае словы любасці і замілавання да роднага горада. Да гэтых галасоў далучыў і я свой. Хай сабе і прозаю. Але ў тых жа вобразах і адчуваннях, што і ў паэтычных творах. Я ўсю гэтую маю экспрэсію прывяла ў рух згаданыя тут кніжка "Ты, Мазыр, - мой Парнас". Я з юнацкіх гадоў быў глыбока перакананы: Мазыр трэба было развіваць як СТАЛІЦУ ПАЛЕССКАГА КРАЮ МАЗЫР, беларускі курортны горад!

*Месяц над Прыпяццю зоркі развесіў,*
*Вечар у казачнай, дзіўнай красе.*
*Радзіма мая – залатое Палессе,*
*Мае спадзяванні і думкі ўсе.*

*Крыніц переззвоны ў задумлівым лесе,*
*Спеў перапёлкі ў спелым аўсе.*
*Радзіма мая – дарагое Палессе,*
*Мае спадзяванні і мары ўсе.*

***Анатоль Малюк.***

... На Мазыр, як на курортную мясціну, глядзеў і Янка Купала. У 1933 годзе ён раіў маскоўскаму мастаку К. Елісееву правесці свой адпачынак менавіта ў Мазыры. Купала пісаў "Нигде больше укромного уголка не найдёш в мире". Шкада, што гэтыя Купалавы словы аніяк, хоць у прадмову асобнай вынаскай, не трапілі ў зборнік. Сам Янка Купала наведаў Мазыр у 1930 годзе. Ну, але хіба ўсё ахопіш?

Дужа цікавая тэма "Дзед Талаш і Мазыр". Невыпадкова ж ягоная шапка – кучумка патрапіла ў Мазырскі краязнаўчы музей.

Летапіс Мазыра доўжыцца. Перакананы, яшчэ не адзін гімн праспяваюць ў гонар Палесскай Сталіцы юныя паэты. Яны знойдуць для свайго любага горада самыя звонкія рыфмы, самыя дакладныя словы з жывых палеска - прыпяцкіх крыніц. А нашы музыкі зладзяць натхнёныя мелодыі, песьням пра наш палескі самабытна непаўторны Мазыр гучаць вечна. Балазе, Мазыр мае сваю літаратурную суполку "Прыпяцкія хвалі", творы якой таксама ўліліся ў агульны паэтычны гімн палескай сталіцы.

*7-га траўня 2001 г.*

# "Я тры рэжымы перажыў"

Нашая родная мова – гэта наша нацыянальная годнасць, свядомасць, нацыянальны гонар, душа нацыі, дзяржавы, нашай незалежнасці.

І вельмі прыкра, калі бачыш занядбалыя да яе адносіны ад уладаў, якія замаўляюць аб клопатах за свой народ, ды не на роднай мове.

Ды ці можа быць народ без сваёй роднай мовы, без сваёй культуры, сваёй гісторыі?

Дзе яшчэ ў свеце можна знайсці такую дзяржаўнасць, у якой так не шануецца родная мова?

Назавіце, хто ў свеце ад імя сваёй Бацькаўшчыны будзе гаварыць на чужой мове? Не знойдзеце такі прыклад

Можа паважаны прэзідэнт Расіі Пуцін В.В., які вельмі любіць Беларусь, будзе размаўляць па-беларуску? Не, ён расіянін, і ён павінен гаварыць па-расійску.

А можа і праўда, знойдзецца хтосьці, калі ён адукаваны, хто б змог мовіць, што беларуская мова бяднейшая, чым расійская, што беларуская мова ганьбіць нацыю, наш народ?

Чаму ўсе нашы суседзі: і рускія, і палякі, і украінцы, і літоўцы, і латышы – усе размаўляюць на сваёй роднай мове?

Прыкра слухаць перадачы па нацыянальнаму каналу нашага беларускага тэлебачання, калі амаль усё вядзецца не на роднай мове.

Як жа можна нацыянальную душу, нацыянальную свядомасць выхоўваць не на беларускай мове?

Я выкладчык рускай мовы і літаратуры, але вершы пішу толькі на сваёй роднай, беларускай мове.

Ці можа нашы міністры, чыноўнікі настане час, калі і наша нацыянальнае тэлебачанне і нашы чыноўнікі будуць размаўляць на сваёй багатай, роднай мове.

Сёння я засяроджу ўвагу, як мой зямляк, патрыёт зямлі беларускай, сябра саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) вучыць нас шанаваць сваю родную мову.

У вершы "Роздум" Анатоль Іверс радуецца лістом з Канады, аўтар якога на канверце і ў канверце з гонарам, як сапраўдны сын беларускага народа, піша па-беларуску. І нават там "за далёкім перавалам" можна не адракацца ад сваёй мовы, яна жыве. І толькі ў нас, на Радзіме, ганьбуецца наша мова.

*Вось з Канады ліст, паверце,*
*З беларускіх літар, слоў*
*На канверце і ў канверце.*
*Толькі ў нас не прыняслo.*
*Зганьбавалі нашу мову,*
*Як той ліст на грунт ступіў,*
*Распаролі на палову:*
*"Повреждённый поступил".*

У вершы "На сустрэчу" Анатоль Іверс кажа, што яшчэ не звяліся злыдні і падхалімы, якія толькі за тое, што ты пішаш і размаўляеш па-беларуску, цябе называюць ворагам, "нацыяналістам". І аўтар з болем душы кажа:

*Не звяліся яшчэ злыдні,*
*Не падох і падхалім!*
*Набрахалі на тым тыдні,*
*Што я ворага хваліў.*
*Ну скажыце, ці то вораг*
*Калі славіць Беларусь*
*У цудоўных сваіх творах?..*
*Я ж на сэрца ўсё бяру.*

У вершы "Наша слова" паэт з болем баяцца размаўляць па-беларуску? на сэрцы распавядае, што нават птушкі размаўляюць на сваёй мове, а на нашай роднай зямлі прышэльцы жудасна топчуць беларускую мову:

*Жаўрук між воблачных праталін*
*На сваёй мове нас заве.*
*А на зямлі маю стапталі*
*Прышэльцы жудасных завей.*
*Яны скалечылі і душу*
*Не адману з маіх сяброў...*
*На роднай мове, хто відушчы,*
*Няхай жа звоніць серабром.*

У вершы "На дзяды" Анатоль Іверс успамінае, што пры ўсіх трох рэжымах: пры Польшчы, пры немцах, пры саветах – аднолькава тапталася родная мова, а над тымі, хто змагаўся за родную мову, здзекваліся, заганялі ў турмы, канцлагеры, ГУЛАГі.

*Я тры рэжымы перажыў:*
*Быў пан, быў гітлерац, "таварыш",*
*А памяць кажа: беражы,*
*Каго яны закатавалі.*
*Палегла многа без віны.*
*За мову родную ў змаганні,*
*А голас іх дасюль звініць*
*На гістарычным скрыжаванні.*

Але аўтар і ўслед за ім мы верым у лепшы час, які не за гарамі, калі нашая мова стане роўнай сярод роўных, бо мы народ.

*Каб не забылі мы наш род.*
*І тых, каго няма на свеце,*
*Каб ведалі, што мы – народ,*
*Што дзень свабодаю нам свеціць.*

Нялёгкім быў жыццёвы лёс Анатоля Іверса. Мне ўпершыню ў сваім артыкуле "Я тры рэжымы перажыў", змешчаным у "Газеце Слонімскай" ад 2-8 лістапада 2000 года, даследуючы жыццёвы і творчы шлях Анатоля Іверса, прыйшлося заўважыць.

Чаму ў аўтара вершаў зборніка "Песні на загонах" (1939) да зборніка "З прой-дзеных дарог" (1970) такі вялікі перапынак?

Чаму з 1944 па 1965 гады замест творчай працы паэт спачатку робіць майстрам на смолзаводзе, а потым тэхнолагам лесапільнага завода? Чаму не ўдалося ўладкавацца нават у рэдакцыю раённай газеты "Вольная праца", дзе ён працаваў да вайны?

Чаму не змог у той час уладкавацца працаваць настаўнікам?

У вершы "Мо апошні юбілей" Іверс пісаў:

*Дыфензіву перажыў,*
*Перажыў гестапа,*
*Мо матляўся б на крыжы,*
*Каб папаўся ў лапы.*
*Але знішчылі яны*
*Родных перад гэтым...*
*Пасля страшнае вайны*
*Зноў прышлі саветы.*
*Я для іх – ні брат, ні сват,*
*Яшчэ "без даверу".*
*Лезлі ў вочы, як аса,*
*Выгналі за дзверы.*

Як ні цяжка складваўся жыццёвы лёс, Анатоль Іверс найперш застаўся паэтам. І ў творчасці ён служыў свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне гэтак самааддана, як і ў жыцці.

Вайна прайшла праз сэрца і душу ветэрана. Іван Міско страціў жонку і бацьку, сам быў на валаску ад смерці. У лістападзе 1943 года ён з горада пайшоў у лес. У гэтым месяцы схапілі немцы яго жонку, а ў пачатку 1944 года – яго бацьку. Іх вывезлі ў Калдычэўскі лагер смерці і расстралялі. У гады Вялікай Айчыннай Іван Міско ўзначальваў падпольную антыфашысцкую арганізацыю, а з 1943 года быў наменснікам камандзіра партызанскага атрада імя Дзяржынскага.

Яшчэ з юнацкіх гадоў пры Польшчы абраў для сябе шлях змагара за Беларусь. Будучы ўжо навучэнцам Віленскай беларускай гімназіі ў 1926 годзе, ён уключаецца ў рэвалюцыйную барацьбу. І калі ў гімназіі пачалася забастоўка супроць выключэння старшакласнікаў з гімназіі, Іван Міско прыняў у ёй актыўны ўдзел. За гэта ён быў выключаны з гімназіі як "бунтар".

З таго часу ён цалкам аддаецца рэвалюцыйнай барацьбе за што не раз зведаў катаванні ад паліцыі і турму.

Але нягледзячы на ўсе заслугі для савецкай улады паэт Анатоль Іверс застаецца чужым.

Настане час, калі літаратурная спадчына паэта Анатоля Іверса будзе сабрана і выдадзена асобным салідным выданнем. Яго заўсёды будзе шанаваць Бацькаўшчына.

І не можа быць, што гэта дзеяцца так па іх варожасці да нашага народа, беларускай культуры, нашай мілай Беларусі.

А калі і гучыць калі-нікалі па-беларуску, дык, як вымаўляе Інга Хрушчова, усё толькі пра *каўгасы* і *саўгасы*.

А наш паслухмяны народ, ужо даўно прывучаны не разважаць, і сёння гатовы, як часта ён дэманструе на мітынгах, і цяпер пайсці з партрэтам самога ўжо што ні ведае свет сатрапа-вешацеля Сталіна і крычаць: "Да здраствует товарищ Сталин".

І хоць у малітве "Ойча наш" гаворыцца: ***"Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя Твай, прыйдзі валадарства твае, будзь воля Твая, як на небе так і на зямлі"***, нашы людзі яшчэ вераць, што

*Майстры*
*Адмысловай звады.*
*Спрытнай*
*Хлусні і здрады,*
*Зладзей і праўдзісветы*
*Ці можа*
*Садзісты адпетыя, -*

якія пранікаюць ва ўладу, усе ад Бога. Не, даражэнькія, на зямлі яшчэ пануе і д'ябал і сатана. Дык і прайдзісветы і ва ўладзе не ад Бога, а ад сатаны. (Верш Я. Яўменава "А ці не замнога?"

Але ж у кожнага беларуса ёсць надзея на тое, што настане час, калі наша боская, родная мова стане роднай для ўсіх беларусаў, для ўсёй Бацькаўшчыны.

І хочацца верыць, што імкненне нашых сыноў нашай Радзімы іх барацьба за нашу мову, нашу культуру, нашу гісторыю, нашу незалежнасць не прападуць:

*Выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь, выкладчык бел. мовы і літаратуры*
*Янка Карповіч.*

## Давайце смяяцца па-беларуску

### ВЯСКОВАЯ ІДЫЛІЯ

Трыццаць тысяч атрымала
Бабка пенсію – ого!
Круп купіла, шматок сала,
Бохан хлеба да яго.
Рэшту грошай захавала,
Каб стары не змог прапіць,
І сябе падрыхтавала,
Як старога абдурыць.
Баба толькі на парог
І ўвайшла ў ролю.
А стары ёй:
- Выкладай
Грошы для кантролю!
- Ты паслухай, галубок,
Што ўжо я сцярпела!
Прастаяла да паўдня,
Не піла, не ела.
Духацішча, таўкатня,
А грошай не хапіла!
І ты ведаеш, дзядок,
Добра – стрэўся мне Змітрок,
Дык перахапіла...
Дзед у роздуме маўчаў
І глядзеў ёй у вочы.
Бачыць – хлусіць, і сказаў:
- Ах ты хвост сарочы!
Хочаш дзеда абдурыць?
Гані, баба, грошы!
Баба ў слёзы, галасіць:
- Ахці ж, мой харошы,
Праўду, праўду я кажу,
Не хапіла грошай!
Дзед за дзягу, ад дзвярэй
Бабу ў кут піхае.
Баба з боем адышла.
Адно – падвывае.
- Грошы дзе, куды схавала?
- Ой, не бі – не атрымала!
Як дзед дзягай ні махаў,
А бойку з бабай праіграў.

х х х

Па мястэчку ходзіць чутка,
Што шчэ ў дзеда добры шанс
У першым раўндзе і хутка
Выйграць у бабы матч-рэванш.
Ды рыхтуецца грунтоўна
Баба ўпотай – знаю я.
Хто каго? Скажу тактоўна:
Пэўна будзе нічыя.

*Фелікс Шкірманкоў, Слаўгарад.*

### Прыпеўкі

Нам казалі "зверху" людзі:
Багацець настаўнік будзе.
Сёння ж за сваю зарплату
П'е без масла ён гарбату.

А мужчыны ў поўным складзе
Пакідаюць школу, сад.
Не ўсядзіш ты на пасадзе,
Як галодненькі аклад.

Рамантуем школу з дзецьмі
Ад цямна і да цямна,
Няма грошай у савеце,
Няма грошай у РАНА.

Дваццаць першы век страчаем,
Юбілеям юбілей,
Ну а самі цвёрда знаем -
Не, не будзе нам лягчэй.

*Мікола Маскевіч, г. Мядзель.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by



Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 9. 07. 2001 г.
Наклад 5000 асобнікаў. Замова № 1601.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
Кошт у розніцу: 70 руб.